**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 8.05, 15.54, 7.49;
Віцебск — 8.01, 15.37, 7.36;
Магілёў — 7.53, 15.43, 7.50;
Гомель — 7.43, 15.47, 8.04;
Гродна — 8.18, 16.10, 7.52;
Брэст — 8.11, 16.18, 8.07.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 2 снежня

**ІМЯНІНЫ**
Платона, Рамана; Наталлі, Элегіуша

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

1 СНЕЖНЯ 1992 г.
аўторак, № 238 [22016]

# РОЗГАЛАС

## ЯШЧЭ РАЗ АБ РУСКІХ І БЕЛАРУСКІХ РУБЛЯХ

У сувязі са з'яўленнем у нашай газеце, а таксама ў іншых выданнях інфармацыі аб таргах у Мінску на фондавай біржы расійскімі безнаяўнымі рублямі і ўстанаўленні іх курсу да беларускіх рублёў у суадносінах 100:110 варта ўдакладніць: гаворка ідзе менавіта аб безнаяўных рублях і ні ў якім разе не аб тых жа «зайчыках», як зразумелі некаторыя чытачы і, адпаведна, паспяшаліся збываць свае наяўныя беларускія грошы. Прычым па тым жа, указаным вышэй, заніжаным курсе. Падкрэслім: «зайчыкі» не збанкрутавалі. Ва ўсякім разе пакуль што.

Уся справа ў тым, што ў нас да гэтага часу існуе такі сацыялістычны феномен, як безнаяўныя грошы. У іх якасці па-ранейшаму выступаюць усё тыя ж расійскія рублі. А хутчэй — гэтыя рублі маюцца на ўвазе, бо яны — толькі на паперы, толькі ў лічбах. Гэтую безнаяўнасць, ці грошы-лічбы, прадпрыемствы і перакідваюць на рахункі адзін аднаго. За прадукцыю, паслугі і г. д. Тым не менш і ў падобных грошах можа быць вялікая патрэба, яны таксама могуць стаць дэфіцытам. Улічым, што грошы самі па сабе не ўяўляюць ніякай каштоўнасці, але пры ўзаемаразліках прадпрыемстваў паказваюць, колькі гэтыя прадпрыемствы зарабілі сустрэчнай прадукцыі. Дык вось: нам цяпер не хапае расійскіх безнаяўных рублёў, заробленых на расійскім рынку. І нават не па прычыне нашай таварнай запазычанасці Расіі, а (нагадаем) з-за таго, што нашы асобныя гора-прадаўцы адправілі сваю прадукцыю яўным расійскім банкрутам. Адным словам, у нас дэфіцыт безнаяўных расійскіх рублёў. У той жа час нам трэба тэрмінова плаціць за шмат якую прадукцыю, а найперш — за энергарэсурсы. З мэтай мабілізацыі тых рублёў, якія зароблены асобнымі нашымі прадпрыемствамі (не ва ўсіх дэфіцыт), але па той ці іншай прычыне не ідуць у абарачэнне, і былі арганізаваны таргі расійскай безнаяўнасцю. Вядома, калі дэфіцыт, значыць, і цана вышэйшая. Каб зацікавіць магчымых прадаўцоў. Адсюль і той курс.

Аднак, як кажуць, што рабіць беднаму селяніну?

Мы жывём у Беларусі, і, вядома, больш надзейна кожнаму з нас трымацца за ўласную валюту. Тым больш, што расійская наяўнасць таксама можа змяніць свой цяперашні знешні выгляд. Тады толькі і застанецца, што абклейваць ёю сцены. Бо нават у якасці нейкай рэдкасці абясцэніцца — вельмі ж багатая калекцыя сабралася...

**Кар. «Звязды».**

## ЛІТВА ПРАДАСЦЬ СВАЮ ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЮ БЕЛАРУСІ

**Міністр энергетыкі Літвы Л. Ашмантас, які днямі вярнуўся з Мінска, паведаміў журналістам аб выніках сустрэчы з беларускімі энергетыкамі. У прыватнасці, падпісаны пратакол, згодна з якім у снежні гэтага года Літва прадасць Беларусі 240 млн., а ў 1993 годзе—4 млрд. кілават-гадзін электраэнергіі.**

**Андрэй КОРСАК, БелаПАН.**

БЕЛАРУСЬ—АЗЕРБАЙДЖАН:

## Што год наступны нам рыхтуе?

Аднадзённага візіту ўрадавай дэлегацыі Азербайджана ў Беларусь аказалася недастаткова, каб падпісаць увесь пакет пагадненняў паміж рэспублікамі аб гандлёва - эканамічным супрацоўніцтве на 1993 год. Разумеючы цяжкасці пераходнага перыяду, дэлегацыі, тым не менш, у працэсе работы над дакументамі зрабілі адна адной шэраг заўваг.

Першы віцэ-прэм'ер Азербайджана Вагід Ахмедаў і намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Іван Кенік, якія паставілі свае подпісы пад пагадненнем, былі аднадушныя ў адным: сёння абедзве рэспублікі зацікаўлены не толькі ў захаванні аб'ёмаў узаемапаставак на ўзроўні 1992 года, але і ў павелічэнні іх, асабліва сельгаспрадукцыі.

**БЕЛІНФАРМ.**

## Выратавала пенсіянерка

**Гэта здарылася ў адзін з халодных лістападаўскіх дзён у гарадскім пасёлку Лагойск.**

**Дашкольнік Валера Зубко і вучань пачатковых класаў сярэдняй школы № 2 Дзіма Капрышчанка, пакінутыя без нагляду бацькоў, вырашылі накіравацца на мясцовае вадасховішча, каб пахадзіць па лёдзе.**

**Першым на лёд смела ступіў Дзіма. А за ім ішоў малодшы Валера. Лёд затрашчаў. Хлопчыкі апынуліся ў ледзяной вадзе. Выбрацца з палонкі яны не маглі. На шчасце, гэта ўбачылі дарослыя. Першай на дапамогу дзецям кінулася пенсіянерка з райцэнтра Ларыса Пятроўна Барысава. Яна вызваліла хлапчукоў з вадзянога палону, адвяла да сябе на кватэру, абагрэла, выклікала медыкаў.**

**Калі небяспека мінула, дзяцей забралі бацькі.**

**М. МІХАЙЛАЎ.**

**У мінулым годзе ў Мінску была створана вытворча-камерцыйная фірма «Міно». Тут быў наладжаны выпуск спартыўнага абутку. Першая прадукцыя была зроблена ў сакавіку гэтага года. З кожным месяцам вытворчасць набірала моц. Вынік такі: ужо адпраўлена спажыўцам больш за 35 тысяч пар красовак.**

**НА ЗДЫМКУ: так выглядае прадукцыя фірмы «Міно»; у нарыхтоўчым цэху.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# Заўчаснае свята?

## ЯКОЙ БЫЛА ПЕРШАЯ СПРОБА АДЗНАЧЫЦЬ УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ НА БЕЛАРУСІ

**У сённяшнім, як і ў папярэдніх нумарах, «Звязда» дае сваім чытачам магчымасць пазнаёміцца з малавядомай старонкай беларускай гісторыі, названай «Слуцкі чын», або Слуцкае паўстанне. Усе 72 гады, якія мінулі з часу той спробы стварыць беларускае войска для абароны БНР, падзеі гэтыя, вядома, асвятляліся ў нас далёка не ў промнях славы. Сёлета па ініцыятыве БНФ лістапад стаў часам новых згадак аб паўстанні. Дык чым жа яно было: нязначным антысавецкім бунтам, усяго адным з эпізодаў грамадзянскай вайны ці незабыўным выступленнем герояў?**

Адсутнасць сучаснай **афіцыйна прынятай** думкі наконт гэтага і прадыктавала нядаўнія рашэнні Слуцкага і Салігорскага гарвыканкомаў: адмовіць ініцыятарам святкавання ў адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў Слуцку і тэматычнай мастацкай выстаўкі ў Салігорскім краязнаўчым музеі.

Між іншым, аўтавыправе сталічнай інтэлігенцыі на Случчыну папярэднічала навуковая канферэнцыя і мастацка-публіцыстычная вечарына ў мінскім Доме літаратара. За «круглым сталом» гісторыкі М. Біч, А. Грыцкевіч, Н. Стужынская, В. Мазец і іншыя ацэньвалі Слуцкае паўстанне як цэлы этап у развіцці беларускага нацыянальна - вызваленчага руху 1917—1920 гадоў, звязанага з ідэяй утварэння беларускай дэмакратычнай дзяржавы. «Не з мэтай агрэсіі ўзнікла яно, не з жадання ўладарыць над іншымі, а адзіна ад святога памкнення жыць сваёй сям'ёй, адпаведна свайму нацыянальнаму менталітэту, незалежна ад злой знешняй сілы», — сказаў у сваім слове на вечары 27 лістапада Васіль Быкаў.—Гэта першая спроба суверэннасці, падкрэсліў пісьменнік, мела, як заўжды, пакутны і трагічны фінал.

Так сталася, што памяць пра яго на эміграцыі захавалася больш канкрэтнай і яскравай, чым на самой Случчыне. Да гадавіны паўстання на адрас БНФ прыйшлі шматлікія віншаванні ад беларускіх арганізацый Канады, Аўстраліі, Амерыкі, у асяродку якіх 27 лістапада адзначаецца нароўні з 25 сакавіка.

Нельга, аднак, сказаць, што Случчына да гэтых дзён засталася зусім абыякавай. Случчане даўно не перажывалі такіх мітынговых хваляванняў, нечаканага і дзіўнага ўзрушэння, разладу ў думках і пачуццях...

Пяць аўтобусаў, што адправіліся ў падарожжа з плошчы Незалежнасці ў Мінску, слуцкія ўлады не віталі хлебам-соллю. Не чакалі іх і ў вёсцы Семежава, дзе калісьці знаходзіўся штаб паўстання і дзе планавалася асвяціць крыж у памяць аб загінуўшых. Местачкоўцы як дзіва сустрэлі працэсію з харугвамі і сцягамі і хутка, вядома, з цікавасцю далучыліся да такой падзеі. Крыж быў устаноўлены пад малітоўны спеў і асвечаны служыцелямі царквы. Семежаўцы, слухаючы мінскіх прамоўцаў, мясцовага настаўніка М. Аляшкевіча, скрушна ўздыхалі аб напаўзабытай трагедыі. Папаўзла чутка, што і пра падобнае мерапрыемства, відаць, наўмысна ні слова не было сказана на нядаўнім калгасным праўленні. Але...

— На крыж гэты ніхто не падыме руку, а мы ўбяром яго ў ручнікі,— сказалі на развітанне нашаму карэспандэнту расчуленыя цёткі.

Тая ж сітуацыя паўтарылася 28 лістапада ў слуцкім гарадскім палацы культуры: з аднаго боку, пра вечар мала хто ведаў, а з другога, кажуць, не ўсіх жадаючых туды і пусцілі...

У гэты ж дзень у слуцкай Міхайлаўскай царкве адбыўся малебен у памяць аб палеглых у змаганні.

Ці набудуць яны ў нашым агульным уяўленні сан герояў? Гэта залежыць ад таго, наколькі поўным, канкрэтным і аб'ектыўным будзе тое ўяўленне. Спадзяёмся, услед за навукоўцамі, на папаўненне сваёй інфармаванасці з архіўна-дакументальных крыніц, якія адкрываюцца і яшчэ павінны нам адкрыцца.

**Алена ЦІХАНОВІЧ, Ганна ЛАГУН.**

# Куды ідзе дапамога?

Адбылася сустрэча журналістаў з супрацоўнікамі аддзела Саўміна па гуманітарнай дапамозе, якая паступае з-за мяжы. Аддзел быў створаны сёлета і з'яўляецца рабочым органам адпаведнай рэспубліканскай камісіі. Па сутнасці гэта размова стала своеасаблівай справаздачай аддзела за перыяд яго існавання.

Дык што было зроблена? Вось некаторыя лічбы і факты, з якімі пазнаёміў М. Собаль, намеснік загадчыка аддзела.

Толькі сёлета ў рэспубліку паступіла медыкаментаў, лекаў і медабсталявання на суму 180 мільёнаў долараў. Пераважна, на 80 працэнтаў, гэтыя пастаўкі ішлі з Канады і ЗША. У асноўным уся меддапамога была накіравана ў Гомельскую і Магілёўскую вобласці.

Прадукты харчавання. Тут найбольш буйной акцыяй з'яўляецца ліпеньская аперацыя «Надзея-экспрэс». Яна вызначаецца не толькі аб'ёмамі паставак — дзесяткі тон грузаў, але і сапраўды гуманітарным зместам, калі можна так сказаць. У гэтай акцыі ўдзельнічалі каля сотні амерыканскіх добраахвотнікаў, якія прыехалі ў Беларусь у час адпачынку і за свой кошт. Яны непасрэдна займаліся сустрэчай грузаў, размеркаваннем прадуктаў харчавання сярод тых, каму яны найбольш патрэбны.

Тады дзякуючы амерыканцам 125 тысяч беларускіх сем'яў змаглі папоўніць свой стол. Акрамя таго, «харчовыя пайкі» атрымалі інваліды, адзінокія старыя. Буйныя партыі прадуктаў былі накіраваны ў бальніцы, школы-інтэрнаты, дамы для састарэлых, інвалідаў.

З'явіліся новыя канструктыўныя падыходы да больш эфектыўнага выкарыстання заходняй дапамогі. З італьянскім пасольствам падпісана пагадненне аб тым, што ўся гуманітарная харчовая дапамога, якая паступае з Італіі, будзе рэалізоўвацца праз гандлёвую сетку, а грошы пералічвацца на спецыяльны рахунак так званага беларуска-італьянскага партнёрскага фонду. З Італіі ўжо атрымалі паўтары тысячы тон лімонаў, 800 тон аліўкавага алею, на падыходзе паўтары тысячы тон бульбы. Сёлета ў Італіі багаты ўраджай гэтай культуры.

Зараз на рахунку фонду ўжо звыш 120 мільёнаў рублёў. Чакаецца, што хутка гэта лічба вырасце да 200 мільёнаў.

Аналагічны фонд ствараецца і з амерыканцамі. Са Злучаных Штатаў будзе пастаўлена пяць тысяч тон вадкага масла, ад продажу якога мяркуецца атрымаць паўмільярда рублёў. Вадкае масла — незнаёмы яшчэ для нас прадукт, ён прымяняецца, напрыклад, пры вытворчасці маргарыну.

М. Собаль паведаміў, што ёсць дамоўленасць з амерыканскім паслом аб пастаўках у канцы снежня г. г. у рэспубліку 50 тысяч тон фуражнага збожжа. Яно пойдзе на вытворчасць камбікармоў. У стадыі распрацоўкі доўгатэрміновая праграма, разлічаная мінімум на пяць гадоў, паставак 30 тысяч тон прадуктаў харчавання шырокага асартыменту: свініны, курыных ножак, рысу, мукі і г. д. Грошы ад іх рэалізацыі таксама паступяць на спецрахунак беларуска-амерыканскага партнёрскага фонду.

На якія мэты будуць накіраваны значныя сродкі гэтых фондаў? У першую чаргу на сацыяльныя праграмы для жыхароў усёй Беларусі. Напрыклад, італьянскі фонд збіраецца фінансаваць 30 мільёнаў рублёў на закуп бялковага гідралізатара. Ён як спецыяльнае харчаванне патрэбен хворым дзецям

**Леанід ТУГАРЫН.**

## Віншаванне А. Бразаўскасу

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь накіраваў віншавальную тэлеграму Альгірдасу Бразаўскасу ў сувязі з абраннем яго старшынёй сейма Літоўскай Рэспублікі. У ёй выказана надзея, што пад кіраўніцтвам новага спікера парламента незалежная Літва зможа дасягнуць згоды ва ўнутраным грамадска-палітычным жыцці, пераадолець сацыяльна-эканамічныя цяжкасці, значна паскорыць працэсы нацыянальнага адраджэння. «Воляй гісторыі народы Беларусі і Літвы спрадвеку жывуць побач, маюць даўнія багатыя традыцыі добрасуседства», — падкрэсліваецца ў тэлеграме. Адзначаецца жаданне беларускага боку і надалей падтрымліваць цесныя сяброўскія адносіны з Літвой, мацаваць палітычныя, эканамічныя і культурныя сувязі.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь— БЕЛІНФАРМ.**

## Канфедэрацыя творчых саюзаў і культурных фондаў Рэспублікі Беларусь Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь

Боль і трывога за лёс культуры, без якой немагчыма нацыянальнае Адраджэнне беларускага народа, прымушае нас, кіраўнікоў творчых саюзаў Беларусі, зноў звярнуцца да народных дэпутатаў. У сілу сваёй сацыяльнай і эканамічнай неабароненасці, нязначнага супрацьборства жорсткім рыначным адносінам, нашы саюзы — грамадскія фарміраванні, якія згуртавалі лепшыя сілы творчай інтэлігенцыі, процістаяць пранікненню ў беларускую культуру нізкапробных, бездухоўных твораў, аказваюць рэальную дапамогу членам саюзаў у вырашэнні найвострых сацыяльных праблем, апынуліся на мяжы самаліквідацыі.

Не ўваходзячы ў дзяржаўныя структуры, не атрымліваючы ад урада датацый, творчыя саюзы і Беларускі фонд культуры для забеспячэння сваёй жыццядзейнасці і выканання праграм у падтрымку нацыянальнай культуры самастойна зарабляюць сродкі. Аднак адсутнасць ільготнага падаткаабкладання ўсе нашы намаганні зводзіць да нуля. (Характэрная дэталь: ільготным падаткаабкладаннем творчыя саюзы карысталіся з незапамятных часоў, нават у гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1992 годзе мы пазбавіліся гэтага права). Зацяжная і паслядоўная барацьба за выжыванне прывяла да таго, што творчыя саюзы і іх прадпрыемствы вызвалены ад падатку на прыбытак. Па нашым агульным перакананні гэтая мера толькі прадоўжыць фінансавую агонію, але не вывядзе нас з крызісу. У канчатковым выніку дзяржава шляхам падаткаабкладання «заробіць» на творчых саюзах 12—15 мільёнаў рублёў, затое канчаткова знішчыць іх. Ці можна са спакойным сумленнем пакласці на адну шалю вагаў творчыя саюзы — аснову прафесійнага і духоўнага жыцця грамадства,— а на другую некалькі мільёнаў рублёў?..

Мы просім вызваліць творчыя саюзы, Беларускі фонд культуры, а таксама іх прадпрыемствы (такімі валодаюць тры саюзы і Беларускі фонд культуры), рэдакцыі газет і часопісаў ад уплаты існуючых падаткаў, за выключэннем чарнобыльскага. Абыходкавая думка, што рашэнне можаператварыць творчыя саюзы ў нейкі прыстанак камерцыйных прадпрыемстваў, якія ўхіляюцца ад уплаты дзяржаве падаткаў, неабгрунтаваная. Па-першае, гаворка ідзе пра эканамічную дзейнасць, адпаведную прафесійнай накіраванасці творчых саюзаў, а па-другое, усё гэта лёгка правяраецца і кантралюецца падатковай інспекцыяй.

Мы звяртаемся да парламента Рэспублікі Беларусь, да ўсіх людзей, якім дарагі лёс нацыянальнай культуры, падтрымаць нас у справядлівай барацьбе за духоўнае здароўе грамадства, за яго нармальную па агульнапрынятых чалавечых мерках будучыню; за здаровы сэнс, важкасць слоў і пазіцый, за сапраўднае адраджэнне шматпакутнай Беларусі.

**Прэзідэнт Канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў Рэспублікі Беларусь М. ЯРОМЕНКА**
**Старшыня Саюза дызайнераў А. ДЛАТОЎСКІ**
**Старшыня Саюза журналістаў Л. ЕКЕЛЬ**
**Сустаршыні Саюза кінематаграфістаў А. КРАСІНСКІ**
**В. НІКІФАРАЎ**
**Старшыня Саюза кампазітараў І. ЛУЧАНОК**
**Старшыня Саюза мастакоў Г. БУРАЛКІН**
**Старшыня Саюза тэатральных дзеячаў А. ДУДАРАЎ**
**Старшыня Саюза музычных дзеячаў М. ДРЫНЕЎСКІ**
**Старшыня Саюза фотамастакоў В. ЛАБКО**
**Старшыня Беларускага фонда культуры І. ЧЫГРЫНАЎ**
**Кандыдат тэхнічных навук А. ВАЛУЕЎ**
**Кандыдат гістарычных навук В. ВЯРГЕЙ**
**Доктар біялагічных навук Р. ГАНЧАРОВА**
**Віцэ-прэзідэнт АНБ, дырэктар Інстытута геахіміі і геафізікі Р. ГАРЭЦКІ**
**Кандыдат тэхнічных навук В. ГІЛЬ**
**Член Саюза пісьменнікаў Беларусі С. ГРАХОЎСКІ.**

# РАДЫЁ ФАКТ

Прэзідыум Савета федэрацыі прафсаюзаў выказаў недавер старшыні Дзяржкамітэта Беларусі па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва Георгію Бадзею і запатрабаваў яго адстаўкі. Прычынай паслужыў той факт, што ў апошні час пры разглядзе ў Вярхоўным Савеце і ўрадзе праектаў законаў, што рэгламентуюць працоўныя і сацыяльна-эканамічныя адносіны, Дзяржкампрацы і яго старшыня робяць спробы заканадаўча абмежаваць правы прафсаюзаў у абароне інтарэсаў працоўных.

***

**Як стала вядома «Радыёфакту», Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь атрымала тэлеграму з Мінфіна Расіі. У ёй просьба інфармаваць насельніцтва аб тым, што тэрмін выкупу мэтавых разліковых чэкаў на права набыцця легкавых аўтамабіляў у 1991 г. ўстаноўлены па 31 снежня 1992 г. уключна. Выкуп праводзіцца ўстановамі Ашчаднага банка, што выдалі ўказаныя чэкі, а таксама ўстановамі Ашчаднага банка Масквы.**

***

Прэзідэнт Эстоніі Ленарт Мэры падкрэсліў, што ўведзеная Расіяй неафіцыяльная эканамічная блакада, як гэта ні парадаксальна, адыграла станоўчую ролю. Яна прымусіла Эстонію расшыраць эканамічныя сувязі з Захадам. Паводле слоў прэзідэнта, да ўвядзення блакады Эстонія была часткай расійскай каланіяльнай імперыі, 94 працэнты экспарту якой прызначаліся для расійскіх рынкаў. Зараз палавіна гандлёвых здзелак Эстоніі заключаецца з краінамі Захаду.

***

**Пастанова ўрада Беларусі аб разліках за прадуктовыя тавары толькі нацыянальнымі разліковымі білетамі, падобна, зусім не засмуціла пакупнікоў з «блізкага зарубежжа». Па-ранейшаму ў Оршу прыбываюць перапоўненыя электрычкі са Смаленска, як іх тут называюць — «прадуктовыя». Тут жа на вакзале разгортваюцца стыхійныя абменныя пункты. За дзесяць беларускіх «зайцоў» даюць 110 расійскіх рублёў. А тыя, хто не хоча пераплачваць, у касах разлічваюцца траякамі і рублямі. І вязуць іх сотнямі штук, атрымліваючы падзяку за дробныя купюры. Вязуць у Оршу і шакалатару, здаючы яе тут на беларускую «валюту». Таксама выгадна.**

***

Да гэтага часу няма гарачай вады ў вільнюскіх дамах. І, вядома, людзі імкнуцца памыцца ў лазні. Аднак гэтая выгода не кожнаму па кішэні. У адзінай лазні, што дзейнічае ў цэнтры горада, за паслугі даводзіцца плаціць 450 талонаў, што па курсу банка Літвы складае 675 рублёў.

Але літоўцаў пераплюнулі нашы камерсанты. Своеасаблівы рэкорд дарагоўлі ўстаноўлены ў Салігорскім лазне-пральным камбінаце—тры тысячы рублёў за карыстанне саўнай.

***

**Выканком Гродзенскага гарадскога Савета даў дазвол на ўзвядзенне ў абласным цэнтры двух помнікаў. Адзін — ахвярам сталінізму, другі — польскаму паэту Адаму Міцкевічу. У абодвух выпадках галоўным інвестарам выступае Саюз палякаў у Беларусі.**

***

Самыя гарачыя прыхільнікі Юрыя Антонава — восем кошак ад Муркі да Ізольды ды чатыры кацяняці, якія жывуць у яго студыі. «Яны самі мяне знайшлі, — расказвае спявак. Спачатку прыйшла адна бяздомная кошка, потым другая, потым, відаць, сярод мясцовага кашачага насельніцтва пайшла пра мяне чутка, і кошкі сталі ісці натоўпамі». Многія з іх засталіся і нават сталі размнажацца пад гукі рамантычных песень Антонава. Зразумела, кошкі цэняць спевака не толькі за мяккі тэмбр яго голасу, але і за каўбасу, якую ён прыносіць.

## МТЗ: наўздагон за Японіяй

На Мінскім трактарным заводзе прынята рашэнне аб выпуску ў наступным годзе 93 тысяч сельскагаспадарчых машын. План выпуску трактараў «Беларусь» не павялічыўся ў адрозненне ад мінулых гадоў, калі колькасная «планка» падымалася да 100 тысяч у год. Затое рэзка ўзрастуць патрабаванні да якасці выпускаемай прадукцыі. Без гэтага немагчыма вывесці прадпрыемства з эканамічнага крызісу.

Дарэчы, на сённяшні дзень гаспадаркі Беларусі выкарыстоўваюць усяго 5 працэнтаў трактараў, астатнія 95 працэнтаў ідуць на далёкае і блізкае замежжа. На самім прадпрыемстве жартуюць, што ў працэнтных адносінах па колькасці адпраўляемых за мяжу машын «Беларусь» мы ўжо дасягнулі ўзроўню Японіі.

## ЗЛАЧЫНСТВЫ СУПРАЦЬ СВЯТАРА ПРАЦЯГВАЮЦЦА

Айцец Аляксей, які месяц назад стаў ахвярай бандыцкага нападзення, правёў першую пасля выздараўлення службу. Адбылося гэта ў Жодзінскім храме, асвечаным у гонар архангела Міхаіла. За час, пакуль айцец Аляксей знаходзіўся ў бальніцы, учынена некалькі нападаў на яго кватэру. Старшыня Беларускага праваслаўнага брацтва Мікола Матрунчык кваліфікуе гэтыя злачынствы як праследаванне.

**Алесь КНЯЗЮК, БелаПАН.**

## Цэны чакаюць пацяплення

**У чарговы раз нам можна парадавацца за новае павышэнне цэн: з учарашняга дня кошт некаторых відаў харчовых тавараў падскочыў у некалькі разоў: масла і мяса — у 2, а каўбасных вырабаў — у 2,8 раза. Цяпер кілаграм масла будзе «цягнуць» на 240 рублёў, столькі ж свініны — 160, а кілаграм ялавічыны — 110 рублёў.**

**На астатнія віды мясных і малочных прадуктаў пакуль што цэны замарожаны.**

## Страляць—дык страляць за валюту

Ідзе сезон палявання на капытных. Толькі ў паляўнічых угоддзях Мінскай вобласці промыславае паляванне ўжо дазволіла адстрэл 110 ласёў і 35 кабаноў.

Адначасова вядзецца і камерцыйнае паляванне. І тое і другое выгаднае для паляўнічых калектываў. Кілаграм дзічыны каштуе ад 70 да 110 рублёў, камерцыйная ліцэнзія на адстрэл лася — ад 1.500 да 3.000 і больш нямецкіх марак. Адстрэл кабана, напрыклад, каштуе ад 600 да 2.000 і больш марак.

Але, нягледзячы на адстрэл, колькасць звера і птушкі ў паляўнічых угоддзях не зменшылася. Адстрэл вядзецца строга на планавай аснове. Звер і птушка зімой атрымліваюць добрую падкормку.

**А. РАМАНОВІЧ.**

## ПРАВОДЗЯЦЬ ХЛОПЦАЎ У АРМІЮ. НОЧЧУ...

**СТОЛІН. Нечаканыя цяжкасці ўзніклі ў мясцовага райваенкамата з прызывам юнакоў у армію. Раней прызыўнікоў адпраўлялі ў Брэст на дзённым дызелі, які прыходзіць з Украіны. Цяпер браніраваннем месц у суседняй дзяржаве ніхто не займаецца, таму і даводзіцца столінскіх юнакоў адпраўляць у армію начным рэйсам мясцовага аўтобуса. Бацькі прызыўнікоў ужо не здзіўляюцца, калі ў позвах іх сынам загадваюць з'явіцца ў ваенкамат у дзве гадзіны ночы. Дарэчы, адпраўка начным аўтобусам — гэта надзвычай дорага і не надта зручна, аднак іншага выйсця пакуль што няма.**

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# АБ АХОВЕ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» рэгулюе адносіны з мэтай зберажэння, належнага ўтрымання, адпаведнага рацыянальнага выкарыстання, аднаўлення і памнажэння гісторыка-культурнай спадчыны.

Гісторыка-культурная спадчына народа Беларусі, створаная ім пад час фарміравання і існавання як ва ўласных дзяржаўных структурах (у Полацкім і іншых старажытных княствах, Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, БНР, БССР), так і ў складзе іншых дзяржаўных фарміраванняў (Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, СССР), з'яўляецца яго набыткам, неад'емнай часткай дасягненняў сусветнай цывілізацыі. Яе духоўныя, мастацкія і дакументальныя вартасці ствараюць неабходныя ўмовы духоўнага, інтэлектуальнага і эканамічнага развіцця грамадства.

Ідэнтыфікацыя, ахова, зберажэнне, папулярызацыя і перадача нашчадкам гісторыка-культурнай спадчыны з'яўляецца святым абавязкам дзяржавы, справай гонару кожнага яе грамадзяніна.

Рэспубліка Беларусь лічыць прычыненне шкоды гісторыка-культурнай спадчыне злачынствам супраць агульначалавечых каштоўнасцей і грамадскага прагрэсу і бярэ на сябе абавязкі:

забараняць усякія дзеянні, якія могуць прычыніць шкоду каштоўным у гісторыка-культурных адносінах аб'ектам, уключаючы выкарыстанне ў мэтах, якія могуць прывесці да іх разбурэння ці пашкоджання ў выпадку ўзброенага канфлікту;

паважаць гісторыка-культурную спадчыну кожнага з народаў свету;

не прымаць ніякіх наўмысных дзеянняў, якія маглі б прама ці ўскосна прычыніць шкоду каштоўным у гісторыка-культурных адносінах аб'ектам, размешчаным на тэрыторыі іншых дзяржаў;

выкарыстоўваць гісторыка-культурныя каштоўнасці народа Беларусі і тыя аб'екты, якія могуць быць імі прызнаны, з навуковымі мэтамі для адукацыі і развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры, маральнага і эстэтычнага выхавання насельніцтва.

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» валодае выключнасцю ў тым сэнсе, што ва ўсіх выпадках, якія маюць дачыненне да гісторыка-культурнай спадчыны, сапраўднымі з'яўляюцца патрабаванні дадзенага Закона.

## РАЗДЗЕЛ I. ВЫЗНАЧЭННЕ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

**Артыкул 1. Вызначэнне гісторыка-культурнай спадчыны**

Гісторыка-культурнай спадчынай з'яўляецца сукупнасць адметных вынікаў і сведчанняў гістарычнага і духоўнага развіцця народа Беларусі, увасобленых у гісторыка-культурных каштоўнасцях.

**Артыкул 2. Гісторыка-культурныя каштоўнасці**

Гісторыка-культурныя каштоўнасці — гэта найбольш адметныя матэрыяльныя аб'екты і нематэрыяльныя праяўленні чалавечай творчасці, якія маюць выдатныя духоўныя, эстэтычныя і дакументальныя вартасці і ўзяты пад ахову дзяржавы ў парадку, вызначаным дадзеным Законам.

**Артыкул 3. Класіфікацыя каштоўнасцей**

Каштоўнасці падзяляюцца на наступныя віды:

1) матэрыяльныя каштоўнасці, матэрыяльнае ўвасабленне якіх не складае іх сутнасці;

2) духоўныя каштоўнасці, магчымае матэрыяльнае ўвасабленне якіх не аказвае істотнага ўплыву на іх сутнасць.

Матэрыяльныя каштоўнасці падзяляюцца на наступныя падвіды:

1а) нерухомыя матэрыяльныя каштоўнасці, перамяшчэнне якіх у прасторы звязана з ажыццяўленнем шэрагу інжынерных мерапрыемстваў і вядзе да частковай або поўнай страты імі адметных каштоўных вартасцей;

1б) рухомыя матэрыяльныя каштоўнасці, перамяшчэнне якіх у прасторы не звязана са зменамі іх сутнасці і тэхнічнага стану.

Духоўныя каштоўнасці падзяляюцца на наступныя падвіды:

2а) фіксаваныя духоўныя каштоўнасці, сутнасць якіх можа быць поўнасцю зафіксавана і не залежыць ад далейшага лёсу іх ствзральнікаў;

2б) увасобленыя духоўныя каштоўнасці, сутнасць або адметныя каштоўныя вартасці якіх поўнасцю ці часткова страчваюцца са знікненнем іх стваральнікаў, носьбітаў або зменаю сацыяльных умоў іх існавання.

## РАЗДЗЕЛ II. УЛІК І АХОВА ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

**Артыкул 4. Улік гісторыка-культурнай спадчыны**

Улік гісторыка-культурнай спадчыны — гэта сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на:

1) вывучэнне гісторыка-культурнай спадчыны;

2) выяўленне найбольш адметных вынікаў і сведчанняў гістарычнага і духоўнага развіцця народа Беларусі і іх дакументальную навуковую фіксацыю;

3) навуковую і мастацкую ацэнку выяўленых і прапанаваных да надання статуса каштоўнасці матэрыяльных аб'ектаў і нематэрыяльных праяўленняў чалавечай творчасці;

4) наданне статуса каштоўнасці найбольш адметным вынікам і сведчанням гістарычнага і духоўнага развіцця народа Беларусі;

5) складанне пераліку матэрыяльных аб'ектаў і нематэрыяльных праяўленняў чалавечай творчасці, уласныя вартасці якіх недастатковыя для надання ім статуса каштоўнасці.

**Артыкул 5. Ахова гісторыка-культурнай спадчыны**

Ахова гісторыка-культурнай спадчыны — гэта сістэма арганізацыйных, прававых і эканамічных мер па зберажэнню каштоўнасцей ад:

1) знішчэння або пагрозы знішчэння;

2) знікнення або пагрозы знікнення;

3) прычынення або пагрозы прычынення шкоды;

4) пагаршэння або пагрозы пагаршэння тэхнічнага стану;

5) навукова неабгрунтаваных змен (уключаючы асяроддзе);

6) пагаршэння ўмоў успрымання.

**Артыкул 6. Дзяржаўная палітыка ў галіне ўліку і аховы гісторыка-культурнай спадчыны**

Дзяржаўная палітыка ў галіне ўліку і аховы гісторыка-культурнай спадчыны вызначаецца ў рэспубліцы Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь і ажыццяўляецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь праз спецыялізаваны дзяржаўны орган аховы гісторыка-культурнай спадчыны.

**Артыкул 7. Спецыялізаваны дзяржаўны орган аховы гісторыка-культурнай спадчыны**

Спецыялізаваным дзяржаўным органам аховы гісторыка-культурнай спадчыны ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца Дзяржаўная інспекцыя Рэспублікі Беларусь па ахове гісторыка-культурнай спадчыны*.

У сваёй дзейнасці ДзІнАС кіруецца палажэннем, якое зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Рашэнні і ўказанні ДзІнАС у межах яе кампетэнцыі абавязковыя для выканання ўсімі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі незалежна ад формы ўласнасці, ведамаснай падпарадкаванасці, дзяржаўнай прыналежнасці і грамадзянства.

**Артыкул 8. Кампетэнцыя ДзІнАС**

У кампетэнцыю ДзІнАС уваходзіць вырашэнне ўсяго комплексу пытанняў, звязаных:

1) са зберажэннем каштоўнасцей, іх асяроддзя і ўмоў існавання;

2) з недапушчэннем страты адметных вартасцей каштоўнасцей, іх навукова неабгрунтаваных змен;

3) кантролем за практычным выкарыстаннем каштоўнасцей;

4) вывучэннем гісторыка-культурнай спадчыны, выяўленнем і ўлікам каштоўнасцей;

5) вяртаннем у Рэспубліку Беларусь каштоўнасцей Беларусі, якія апынуліся па-за яе межамі;

6) кантролем за безумоўным выкананнем патрабаванняў дадзенага Закона.

**Артыкул 9. Кіраўніцтва ДзІнАС**

ДзІнАС узначальвае Старшыня, які назначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10. Абмежаванні камерцыйнай дзейнасці ДзІнАС**

ДзІнАС забараняецца праводзіць усякую камерцыйную і іншую дзейнасць, звязаную з атрыманнем прыбытку.

**Артыкул 11. Навукова-метадычная палітыка ў галіне ўліку, аховы, зберажэння, аднаўлення, выкарыстання, памнажэння і вяртання гісторыка-культурнай спадчыны**

Выпрацоўку і ўдасканаленне навукова-метадычнай палітыкі ў галіне ўліку, аховы, зберажэння, аднаўлення, выкарыстання, памнажэння і вяртання гісторыка-культурнай спадчыны ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляе Беларуская рэспубліканская Навукова-метадычная рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны** пры ДзІнАС.

Фарміраванне персанальнага складу Навукова-метадычнай рады праводзіцца на пазаштатнай аснове.

Статут Навукова-метадычнай рады зацвярджаецца ДзІнАС.

**Артыкул 12. Фінансавае забеспячэнне дзейнасці ДзІнАС і Навукова-метадычнай рады**

Дзейнасць ДзІнАС і Навукова-метадычнай рады ажыццяўляецца за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту і іншых крыніц фінансавання.

**Артыкул 13. Вылучэнне матэрыяльных аб'ектаў і нематэрыяльных праяўленняў чалавечай творчасці для надання ім статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці**

Матэрыяльныя аб'екты і нематэрыяльныя праяўленні чалавечай творчасці могуць вылучацца для надання ім статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці:

1) з наяўных вядомых прадметаў, аб'ектаў, нематэрыяльных праяўленняў чалавечай творчасці, якія існуюць рэальна, бытуюць у чалавечай дзейнасці або прадстаўлены ў эталонах і іншых формах выяўлення вартасцей каштоўнасці (незалежна ад месца іх знаходжання);

2) з нанава выяўленых утоеных раней прадметаў ці з'яў;

3) з матэрыяльных прадметаў, аб'ектаў або нематэрыяльных праяўленняў чалавечай творчасці, аб наяўнасці якіх сведчыць навукова правераная інфармацыя пры адсутнасці бясспрэчных, дакументальна даведзеных звестак аб знішчэнні ці страце іх або іх эталонаў.

**Артыкул 14. Прапанова па наданню статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці**

Прапанова па наданню статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці найбольш адметнаму выніку ці сведчанню гістарычнага і духоўнага развіцця народа Беларусі (з абавязковым абгрунтаваннем) можа быць унесена любой юрыдычнай ці фізічнай асобай пры выяўленні ёю выдатных вартасцей рэкамендуемага матэрыяльнага аб'екта або нематэрыяльнага праяўлення чалавечай творчасці.

**Артыкул 15. Выпадковае выяўленне ўтоеных раней аб'ектаў, надзеленых вартасцямі каштоўнасцей**

Юрыдычная ці фізічная асоба, якая выпадкова выявіла ўтоены раней рухомы прадмет, групу прадметаў (скарб) або іншую рухомую знаходку, што можа ўяўляць гісторыка-культурную каштоўнасць, абавязана прыняць меры па яе зберажэнню і ў тэрмін да пяці дзён паведаміць аб факце знаходкі ў выканаўчы камітэт мясцовага Савета народных дэпутатаў, або ў мясцовы аддзел унутраных спраў, або ў ДзІнАС.

Кіраўнік выканаўчага камітэта мясцовага Савета народных дэпутатаў або мясцовы аддзел унутраных спраў, які атрымаў такое паведамленне, абавязаны ў тэрмін да трох дзён прыняць знаходку пад распіску ад асобы, якая яе выявіла, і паведаміць аб гэтым у ДзІнАС.

Кіраўнік або мясцовы адказны прадстаўнік ДзІнАС, які атрымаў такое паведамленне выканаўчага камітэта мясцовага Савета народных дэпутатаў або мясцовага аддзела ўнутраных спраў, абавязаны ў тэрмін да пяці дзён прыняць знаходку пад распіску або (у выпадку відавочнай неабгрунтаванасці меркаванняў аб яе каштоўнасці) скласці акт аб адсутнасці ў знаходцы адметных духоўных, мастацкіх і дакументальных вартасцей.

У гэтым жа парадку прадстаўляюцца на разгляд рухомыя аб'екты, што могуць уяўляць гісторыка-культурную каштоўнасць, канфіскаваныя мытнымі службамі пры спробе нелегальнага правозу праз граніцы Рэспублікі Беларусь.

Юрыдычная ці фізічная асоба, якая выпадкова выявіла ўтоены нерухомы аб'ект або фрагмент нерухомага аб'екта (архітэктурныя дэталі, элементы дэкору, вырабы мастацкага аздаблення, рэшткі роспісаў і інш.), што можа ўяўляць гісторыка-культурную каштоўнасць ці наяўнасць археалагічных прадметаў у глебе пры вытворчасці земляных работ, абавязана адразу ж прыпыніць работы або іншую дзейнасць, якая прывяла да выяўлення, прыняць меры па зберажэнню выяўленых фрагментаў і неадкладна паведаміць аб знаходцы ў ДзІнАС (непасрэдна або праз выканаўчы камітэт мясцовага Савета народных дэпутатаў).

Адказны прадстаўнік ДзІнАС, які атрымаў такое паведамленне, абавязаны неадкладна (у тэрмін не больш чым 24 гадзіны) арганізаваць выезд упаўнаважаных асоб на месца выяўлення знаходкі, якія павінны сваім прадпісаннем вызначыць меры па далейшаму рэжыму яе ўтрымання з указаннем прыблізнага тэрміну яго дзеяння або (пры відавочнай неабгрунтаванасці меркавання аб каштоўнасці знаходкі) скласці акт аб адсутнасці ў яе адметных духоўных, эстэтычных ці дакументальных вартасцей. Вызначаны ўпаўнаважанымі асобамі тэрмін дзеяння ўстаноўленага імі рэжыму можа быць скарочаны або прадоўжаны рашэннем кіраўніцтва ДзІнАС.

Прыпыненыя ў сувязі з выяўленнем знаходкі работы могуць быць адноўлены толькі з пісьмовага дазволу адказнага прадстаўніка ДзІнАС.

За вымушаны прастой, выкліканы выяўленнем знаходкі, юрыдычнай ці фізічнай асобе выплачваецца кампенсацыя ў парадку і памерах, устаноўленых рашэннем Савета Міністраў Беларусі.

У выпадках, прадугледжаных у дадзеным артыкуле, першапачатковае вызначэнне наяўнасці ў нанава выяўленых рухомых прадметах або нерухомых аб'ектах вартасцей гісторыка-культурных каштоўнасцей можа зрабіць сама асоба, якая выявіла знаходку, або іншыя асобы, якія выпадкова з'явіліся сведкамі выяўлення. Калі сведкай з'яўляецца асоба з профільнай адукацыяй (дазваляючай кваліфікавана ацаніць знаходку), яе патрабаванні аб прыпыненні работ, забеспячэнні захаванасці знаходкі і паведамленні аб ёй згодна з патрабаваннямі Закона з'яўляюцца абавязковымі. Абавязкова таксама выкананне патрабаванняў, выкладзеных у дадзеным артыкуле ў адносінах да ўсіх без выключэння скарбаў і патаемных сховішчаў.

Адказнасць за зберажэнне знаходкі з моманту яе выяўлення да перадачы выканаўчаму камітэту мясцовага Савета народных дэпутатаў або да з'яўлення на месца прадстаўніка ДзІнАС ускладаецца на асобу, якая выявіла знаходку або заявіла аб ёй.

Адказнасць за зберажэнне знаходкі ў далейшым (да вызначэння яе пастаяннага ўласніка ці карыстальніка) ускладаецца на той выканаўчы камітэт мясцовага Савета народных дэпутатаў або мясцовы аддзел унутраных спраў, што прыняў яе пад распіску, або вызначаецца прадпісаннем ДзІнАС.

Усе прынятыя пад распіску ў парадку, прадугледжаным дадзеным артыкулам, прадметы або аб'екты, якім ДзІнАС вызначаны часовы рэжым захавання, у абавязковым парадку прадстаўляюцца на разгляд Навукова-метадычнай рады на прадмет надання ім статуса каштоўнасці. У гэтым выпадку аўтарам прапановы па наданню прадмету ці аб'екту статуса каштоўнасці лічыцца асоба, якая выявіла знаходку або заявіла аб ёй. Пры гэтым ад названай асобы не патрабуецца абгрунтаванне прапановы па наданню знаходцы статуса каштоўнасці.

**Артыкул 16. Прафесіянальнае выяўленне матэрыяльных аб'ектаў або нематэрыяльных праяўленняў чалавечай творчасці, надзеленых вартасцямі каштоўнасці**

Усе каштоўныя ў гісторыка-культурных адносінах матэрыяльныя аб'екты, прадметы і нематэрыяльныя праяўленні чалавечай творчасці, якія выяўляюцца або ўводзяцца ў навуковы ўжытак пад час прафесіянальнай навукова-даследчай дзейнасці (археалагічнага вывучэння культурнага слою, натурных даследаванняў гістарычных аб'ектаў і прадметаў, экспедыцыйнай дзейнасці, вывучэння фондаў музеяў, бібліятэк, архіваў і інш.), у абавязковым парадку павінны быць навукова зафіксаваны з прадстаўленнем экземпляра фіксацыйных матэрыялаў у банк звестак аб гісторыка-культурнай спадчыне ў адпаведнасці з артыкулам 25 дадзенага Закона. Складальнікі фіксацыйных матэрыялаў маюць на іх аўтарскае права.

Адказнасць за фіксацыю, а таксама за зберажэнне выяўляемых пад час навукова-даследчай дзейнасці зафіксаваных знаходак (да іх перадачы пастаяннаму ўласніку ці карыстальніку) ускладаецца на асобу, якая выявіла знаходку, а ў выпадку, калі апошняя выяўлена ў выніку работы даследчага калектыву, — на яго кіраўніка (кіраўніка экспедыцыі).

Пры выяўленні пад час прафесіянальнай навукова-даследчай дзейнасці ўтоеных раней або не ўведзеных у навуковы ўжытак матэрыяльных прадметаў ці аб'ектаў, што могуць уяўляць матэрыяльную гісторыка-культурную каштоўнасць або з'яўляцца эталонамі духоўнай фіксаванай каштоўнасці, уласнік якіх не ўстаноўлены, выявіўшыя іх даследчыкі не маюць права распараджацца імі.

Прадстаўленне найбольш адметных з выяўленых пад час прафесіянальнай навукова-даследчай дзейнасці каштоўных у гісторыка-культурных адносінах прадметаў ці аб'ектаў або нематэрыяльных праяўленняў чалавечай творчасці на разгляд Навукова-метадычнай рады для надання ім статуса каштоўнасці ажыццяўляецца ў парадку, прадугледжаным артыкулам 14 дадзенага Закона.

**Артыкул 17. Узнагарода за выяўленне каштоўных у гісторыка-культурных адносінах матэрыяльных аб'ектаў або нематэрыяльных праяўленняў чалавечай творчасці**

У выпадку надання статуса каштоўнасці матэрыяльнаму аб'екту або нематэрыяльнаму праяўленню чалавечай творчасці юрыдычнай ці фізічнай асобе, што ўнесла прапанову аб наданні гэтага статуса, выплачваецца ўзнагарода. Памер узнагароды вызначаецца Навукова-метадычнай радай і канчаткова ўстанаўліваецца ДзІнАС.

У выпадку, калі ўзнагарода выплачваецца за наданне статуса каштоўнасці нанава выяўленаму ўтоенаму раней прадмету (групе прадметаў), што дадаткова ўтрымлівае банкаўскія актывы, выплата ўзнагароды за наданне статуса каштоўнасці не цягне за сабой змяненняў у парадку выплат, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У выпадку, калі ўтоеная раней выпадкова выяўленая рухомая знаходка ў адпаведнасці з артыкулам 81 дадзенага Закона паступае ва ўласнасць уласніку той каштоўнасці, у складзе якой (на тэрыторыі якой) яна выяўлена, апошні павінен выплаціць асобе, што выявіла знаходку, узнагароду ў памеры не менш чым 25 працэнтаў яе кошту, вызначанага музейнай экспертнай камісіяй або адпаведнай камісіяй установы гандлю антыкварыятам.

У выпадку, калі ўтоеная раней выпадкова выяўленая рухомая знаходка ў адпаведнасці з артыкулам 81 дадзенага Закона паступае ў адзін з дзяржаўных музеяў Рэспублікі Беларусь, апошні павінен выплаціць асобе, што яе выявіла, узнагароду ў памеры не менш чым 25 працэнтаў ад яе кошту (вызначанага музейнай экспертнай камісіяй). Калі знаходка ўтрымлівае банкаўскія актывы, музей выплачвае 25 працэнтаў ад сумы, што складае розніцу паміж агульным коштам музейнай каштоўнасці і коштам банкаўскіх актываў, што ўтрымліваюцца ў ёй. Пры гэтым узнагарода за перадачу дзяржаве банкаўскіх актываў, што ўтрымліваюцца ў знаходцы, выплачваецца ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 18. Разгляд прапаноў аб наданні статуса каштоўнасці матэрыяльным аб'ектам і нематэрыяльным праяўленням чалавечай творчасці**

Навукова-метадычная рада, атрымаўшы прапанову аб наданні статуса каштоўнасці матэрыяльнаму аб'екту або нематэрыяльнаму праяўленню чалавечай творчасці, неадкладна афіцыйна даводзіць інфармацыю аб гэтым да ўладальніка ці карыстальніка каштоўнасці, а таксама да выканаўчага камітэта мясцовага Савета народных дэпутатаў і арганізуе кваліфікаваны разгляд кожнай паступіўшай прапановы.

З моманту давядзення Навукова-метадычнай радай інфармацыі аб паступіўшай прапанове па наданню статуса каштоўнасці матэрыяльнаму аб'екту або нематэрыяльнаму праяўленню чалавечай творчасці дзеянні, што прыводзяць да знішчэння (пагрозы знішчэння), знікнення (пагрозы знікнення), навукова неабгрунтаваных змен апошніх, забараняюцца да канчатковага (станоўчага або адмоўнага) вырашэння пытання аб уключэнні аб'екта ці праяўлення ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з артыкулам 20 дадзенага Закона.

Па кожнай з паступіўшых прапаноў і па выніках разгляду, прынятых у адпаведнасці з артыкулам 15 дадзенага Закона наконт надання статуса каштоўнасці нанава выяўленым (утоеным раней) прадметам або аб'ектам, Навукова-метадычная рада накіроўвае ДзІнАС адпаведнае заключэнне.

**Артыкул 19. Крытэрыі адбору каштоўнасцей**

Навукова-метадычная рада пры разглядзе прадстаўленых прапаноў кіруецца тым, што ў Рэспубліцы Беларусь каштоўнасці павінны мець свае мастацкія, духоўныя або дакументальныя вартасці і адпавядаць хаця б аднаму з пералічаных крытэрыяў:

1) з'яўляцца:

адным з фактараў фарміравання нацыянальнага менталітэту;

рэдкім або каштоўным сведчаннем існавання знікшай цывілізацыі;

створаным або істотна пераасэнсаваным і перайначаным народам Беларусі эпічным творам;

створаным на тэрыторыі Беларусі або пад уплывам беларускай гісторыі, рэчаіснасці, менталітэту, асяроддзя і г. д. адметным аўтарскім творам мастацтва;

адметнай, характэрнай для Беларусі або аднаго з яе рэгіёнаў традыцыяй ці народным промыслам;

сімвалам або іншым выражэннем ці абазначэннем з'яў, падзей або паняццяў, звязаных з гісторыяй Беларусі, яе асобных рэгіёнаў, радаводаў або этнічных груп;

дакументальнай фіксацыяй адметных для свету і Беларусі падзей або працэсаў;

адметным мастацкім творам, шэдэўрам творчага генія;

выдатным або арыгінальным вынікам творчага або навукова-тэхнічнага эксперыменту;

рэдкім на тэрыторыі Беларусі або выдатным прыкладам дасягненняў гісторыка-культурнай дзейнасці іншага народа;

вынікам або сведчаннем недаследаваных працэсаў;

матэрыяльным аб'ектам або нематэрыяльнай з'явай, характэрнай толькі для культуры народа Беларусі;

пахаваннем славутага чалавека, брацкай магілай воінаў і ахвяр ваенных падзей, узброеных канфліктаў і масавых рэпрэсій;

традыцыйнай тапанімічнай назвай;

рэдкім або выдатным узорам:

а) створанага чалавекам асяроддзя жыццядзейнасці;

б) пабудовы або іншага стварэння канкрэтнага гістарычнага перыяду, рэгіёну або тыпалагічнай прыналежнасці;

в) вырашэння вытворчых, гаспадарчых, фартыфікацыйных, арганізацыйных і іншых практычных пытанняў;

г) выкарыстання ў жыццядзейнасці чалавека прыродных фактараў і асаблівасцей;

д) прадметаў быту або іншага прызначэння пэўнага гістарычнага перыяду або рэгіёну;

е) пэўнага стылістычнага напрамку або рэгіянальнай ці этнічнай асаблівасці ў любым відзе мастацтва;

ж) твора любога віду народнага мастацтва пэўнага гістарычнага перыяду, рэгіёну або этнічнай групы;

2) быць непасрэдна звязанымі з:

падзеямі або ідэямі і перакананнямі, якія аказалі значны ўплыў на ход гістарычнага развіцця сусвету і шматнацыянальнага народа Беларусі;

жыццём і дзейнасцю выдатных асоб свету і Беларусі;

3) лічыцца:

са звязанай з народнымі паданнямі, легендамі, іншымі эпічнымі творамі, народнымі абрадамі;

з матэрыяльным аб'ектам, надзеленым выдатнымі звышнатуральнымі ўласцівасцямі;

4) аказваць значны ўплыў на развіццё мастацтва, духоўнасці грамадства, светапогляду людзей у пэўны перыяд часу або на тэрыторыі аднаго з рэгіёнаў Беларусі;

5) утрымліваць недаследаваны або не поўнасцю даследаваны археалагічны культурны слой.

Матэрыяльнымі гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі могуць з'яўляцца толькі аўтэнтычныя або рэстаўрыраваныя паводле навукова абгрунтаванай праектнай дакументацыі аб'екты. Выключэнне з гэтага правіла можа допускацца толькі ў адносінах да нерухомых аб'ектаў, якія поўнасцю ці амаль поўнасцю адноўлены паводле дакладных гістарычных даных на ранейшым месцы.

**Артыкул 20. Наданне статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці Рэспублікі Беларусь**

Статус гісторыка-культурнай каштоўнасці Рэспублікі Беларусь надаецца ДзІнАС найбольш адметным вынікам і сведчанням гістарычнага і духоўнага развіцця народа Беларусі.

Наданне гэтага статуса з'яўляецца магчымым і абавязковым пры наступных дзвюх умовах:

1) станоўчым заключэнні па дадзенаму аб'екту або праяўленню Навукова-метадычнай рады;

2) адсутнасці бясспрэчных дакументальна даведзеных звестак аб страце, знішчэнні або знікненні разглядаемага аб'екта ці праяўлення.

Пры адпаведнасці гэтым умовам статус каштоўнасці можа быць нададзены найбольш адметным вынікам і сведчанням гістарычнага і духоўнага развіцця народа Беларусі, якія афіцыйна лічацца гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі ў іншых краінах.

Актам прызнання матэрыяльнага аб'екта або нематэрыяльнага праяўлення чалавечай творчасці каштоўнасцю з'яўляецца яго ўключэнне ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 21. Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь**

Матэрыяльныя аб'екты і нематэрыяльныя праяўленні чалавечай творчасці, якім у адпаведнасці з гэтым Законам нададзены статус каштоўнасці, уносяцца ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Названы спіс змяшчае наступныя раздзелы:

1) наяўныя ў межах Рэспублікі Беларусь гісторыка-культурныя каштоўнасці. У гэты раздзел уносяцца ўсе матэрыяльныя каштоўнасці, якія знаходзяцца ў межах рэспублікі (незалежна ад іх паходжання), усе фіксаваныя духоўныя каштоўнасці і ўсе ўвасобленыя ў носьбітах духоўныя каштоўнасці;

2) гісторыка-культурныя каштоўнасці народа Беларусі, якія легальна знаходзяцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь. У гэты раздзел уносяцца ўсе матэрыяльныя каштоўнасці, якія пры бясспрэчным, дакументальна даведзеным беларускім паходжанні апынуліся па-за межамі Рэспублікі Беларусь у парадку, які адпавядае нормам міжнароднага права, а таксама тыя духоўныя каштоўнасці, носьбіты якіх пры бясспрэчным (у тым ліку прызнаным імі самімі) беларускім паходжанні (нацыянальнасці) не маюць грамадзянства Рэспублікі Беларусь;

3) гісторыка-культурныя каштоўнасці народа Беларусі, якія незаконна знаходзяцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь. У гэты раздзел уносяцца ўсе матэрыяльныя каштоўнасці, якія пры бясспрэчным дакументальна даведзеным беларускім паходжанні апынуліся па-за межамі Рэспублікі Беларусь у парадку, які не адпавядае нормам міжнароднага права;

4) гісторыка-культурныя каштоўнасці народа Беларусі, якія зніклі пры нявысветленых акалічнасцях. У гэты раздзел уносяцца ўсе матэрыяльныя каштоўнасці народа Беларусі, якія зніклі пры нявысветленых акалічнасцях (пры бясспрэчным дакументальна даведзеным факце іх існавання да знікнення) пры ўмове, што бясспрэчных дакументальна абгрунтаваных даных аб іх знішчэнні няма;

5) гісторыка-культурныя каштоўнасці, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення або знішчэння. У гэты раздзел уносяцца тыя з пералічаных у першых чатырох раздзелах Дзяржаўнага спіса гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь матэрыяльныя аб'екты і нематэрыяльныя праяўленні чалавечай творчасці, якія знаходзяцца пад пагрозай знішчэння (знікнення) або страты сваіх адметных духоўных, дакументальных ці мастацкіх вартасцей з указаннем прычын, якія выклікаюць гэту пагрозу, і мер, неабходных для выратавання кожнай каштоўнасці.

Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь пераглядаецца цалкам або па раздзелах па меры неабходнасці, але не радзей аднаго разу ў два гады, і публікуецца пасля кожнага перагляду.

**Артыкул 22. Комплексныя каштоўнасці**

Статус каштоўнасці можа надавацца комплексу (калекцыі) матэрыяльных аб'ектаў, якія размешчаны побач або сабраны разам па пэўных прыкметах (пры гэтым у склад комплексу асобным кампанентам можа ўключацца асяроддзе), а таксама серыі аб'ектаў, якія знаходзяцца ў розных месцах, але аб'яднаныя агульнымі рысамі, якія складаюць аснову іх духоўных, эстэтычных і дакументальных вартасцей. Статус каштоўнасці таксама можа надавацца комплекснай з'яве духоўнай культуры.

У Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь уносіцца не толькі сама комплексная каштоўнасць, але і кожны з тых яе кампанентаў, які па сваіх якасцях можа лічыцца асобнай каштоўнасцю.

**Артыкул 23. Эталон фіксаванай духоўнай каштоўнасці**

Найбольш дакладная і якасная фіксацыя духоўнай каштоўнасці падвіду «2а» (артыкул 3 дадзенага Закона) любымі магчымымі графічнымі і тэхнічнымі сродкамі прымаецца Навукова-метадычнай радай як эталон духоўнай фіксаванай каштоўнасці.

У выпадку выяўлення больш дакладнай і якаснай фіксацыі такой каштоўнасці Навукова-метадычная рада мае права зняць статус эталона з раней прынятай фіксацыі і прыняць за эталон нанава выяўленую фіксацыю.

Эталоны духоўных каштоўнасцей падлягаюць ахове як і матэрыяльныя каштоўнасці.

Месцазнаходжанне і ўладальнік эталона ўказваюцца ва ўліковых дакументах пра каштоўнасць.

**Артыкул 24. Уліковыя дакументы**

На ўсе выяўленыя адметныя вынікі і сведчанні гістарычнага развіцця народа Беларусі складаюцца ўліковыя дакументы.

Формы ўліковых дакументаў для кожнага з відаў і падвідаў каштоўнасцей, парадак іх запаўнення і захавання вызначаюцца і зацвярджаюцца ДзІнАС. Уліковыя дакументы падлягаюць дапаўненню пры атрыманні новых звестак аб каштоўнасці.

**Артыкул 25. Банк звестак аб гісторыка-культурнай спадчыне Рэспублікі Беларусь**

Для захавання і сістэматызацыі ўліковых дакументаў па каштоўнасцях, звестак аб адметных выніках і сведчаннях гістарычнага развіцця народа Беларусі, страчаных матэрыяльных аб'ектах і нематэрыяльных праяўленнях чалавечай творчасці, якія маглі б атрымаць статус гісторыка-культурных каштоўнасцей у Рэспубліцы Беларусь, ствараецца Банк звестак аб гісторыка-культурнай спадчыне Рэспублікі Беларусь***.

Банк звестак з'яўляецца дзяржаўнай установай з правамі юрыдычнай асобы.

Банк звестак праводзіць таксама работу па збору, сістэматызацыі і захаванню ўсіх навукова-даследчых, выдавецкіх і пабочных матэрыялаў, звязаных з каштоўнасцямі.

Для гэтага:

1) уладальнікі і карыстальнікі каштоўнасцей павінны ў абавязковым парадку бясплатна перадаваць у банк звестак па аднаму экземпляру падрыхтаванай па іх заказу навукова-даследчай і праектнай дакументацыі на ўсе віды работ па каштоўнасцях і ў зонах іх аховы;

2) рэспубліканскія выдавецкія арганізацыі павінны бясплатна перадаваць у банк звестак абавязковы экземпляр усіх выданняў, у якіх разглядаюцца пытанні гісторыка-культурнай спадчыны.

У банку звестак могуць захоўвацца эталоны духоўных фіксаваных каштоўнасцей.

Дзейнасць банка звестак ажыццяўляецца за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту і іншых крыніц фінансавання.

Банк звестак бясплатна прадстаўляе магчымасць азнаёміцца з сабранай у ім інфармацыяй толькі тым юрыдычным і фізічным асобам, якія прадстаўляюць яму інфармацыю аб усіх выяўленых імі новых звестках і падрыхтаваных матэрыялах аб гісторыка-культурнай спадчыне Беларусі.

**Артыкул 26. Пазбаўленне статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці Рэспублікі Беларусь**

Матэрыяльныя аб'екты і нематэрыяльныя праяўленні чалавечай творчасці могуць быць пазбаўлены статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці і выключаны з Дзяржаўнага спісу гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь па рашэнню пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны ў выпадку знішчэння або знікнення ў выніку стыхійнага ўздзеяння прыродных фактараў або іншых непрадугледжаных сітуацый і немагчымасці (па вызначэнню Навукова-метадычнай рады) навукова абгрунтаванага аднаўлення.

Археалагічныя аб'екты могуць быць пазбаўлены статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці і пасля поўнага навуковага даследавання, неабходнасць якога абумоўлена вырашэннем выключных (па вызначэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь) народнагаспадарчых задач.

## РАЗДЗЕЛ III. ЗБЕРАЖЭННЕ І АДНАЎЛЕННЕ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ

**Артыкул 27. Прынцыпы зберажэння гісторыка-культурных каштоўнасцей**

Зберажэнне гісторыка-культурных каштоўнасцей — гэта недапушчэнне страты матэрыяльнымі аб'ектамі і нематэрыяльнымі праяўленнямі чалавечай творчасці сваіх адметных духоўных, эстэтычных і дакументальных вартасцей, якія абумовілі наданне ім статуса каштоўнасцей.

Характар дзейнасці па зберажэнню каштоўнасцей залежыць ад іх уласцівасцей.

**Артыкул 28. Непасрэднае забеспячэнне захаванасці матэрыяльных нерухомых каштоўнасцей**

У мэтах непасрэднага забеспячэння захаванасці забараняецца знос, перамяшчэнне, затапленне, стварэнне пагрозы існаванню, навукова неабгрунтаваныя змены або пагаршэнне (пагроза пагаршэння) тэхнічнага стану матэрыяльных нерухомых каштоўнасцей.

Пералічаныя дзеянні (за выключэннем зносу) могуць быць дапушчаны толькі па рашэнню Урада Рэспублікі Беларусь, калі іх неабходнасць выклікана правядзеннем навукова абгрунтаваных зацверджаных ва ўстаноўленым парадку мерапрыемстваў па ліквідацыі вынікаў стыхійных бедстваў, катастроф, ваенных дзеянняў.

Забараняецца таксама выдача ў карыстанне наведвальнікам бібліятэк і архіваў (не зважаючы на іх форму ўласнасці і падначаленасць) арыгіналаў матэрыяльных рухомых або эталонаў духоўных фіксаваных каштоўнасцей, унікальнасць або дрэнны тэхнічны стан якіх ствараюць пагрозу іх зберажэнню пры неасцярожным абыходжанні з імі. Аднясенне каштоўнасцей да групы, на якую распаўсюджваюцца такія абмежаванні, праводзіцца ДзІнАС па прадстаўленню Навукова-метадычнай рады праз асобыя пазначэнні ў Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь і афіцыйнае паведамленне кіраўніцтва бібліятэк і архіваў.

**Артыкул 29. Ахова асяроддзя матэрыяльных нерухомых каштоўнасцей**

У мэтах забеспячэння аховы асяроддзя матэрыяльных нерухомых каштоўнасцей вакол іх устанаўліваюцца наступныя зоны:

1) ахоўная;

2) рэгулюемай забудовы;

3) аховы прыроднага наваколля;

4) аховы культурнага слоя.

Рэжымамі ўтрымання гэтых зон прадугледжваюцца пэўныя абмежаванні або поўная забарона дзейнасці, якая шкодзіць зберажэнню і ўмовам існавання каштоўнасцей.

Зацверджаныя ў складзе праектаў зон аховы і рэжымы іх утрымання абавязковыя для выканання ўсімі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі без выключэння.

**Артыкул 30. Праекты зон аховы**

Праекты зон аховы, уключаючы рэжымы іх выкарыстання, распрацоўваюцца ў індывідуальным парадку для кожнай матэрыяльнай нерухомай каштоўнасці і зацвярджаюцца ДзІнАС.

Забараняецца распрацоўка праектаў раённай планіроўкі, развіцця і рэканструкцыі гарадоў і іншых населеных пунктаў, мапы (карты) землекарыстання без нанясення прынятых або распрацоўкі неабходных зон аховы матэрыяльных нерухомых каштоўнасцей.

**Артыкул 31. Ахоўныя дошкі**

На кожнай матэрыяльнай нерухомай каштоўнасці, якая ўнесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь, усталёўваецца ахоўная дошка адзінай формы. Ахоўная дошка змяшчае папярэджанне аб адказнасці за прычыненне каштоўнасці шкоды. Ахоўная дошка ўсталёўваецца і захоўваецца за кошт сродкаў юрыдычных і фізічных асоб, ва ўласнасці ці ў карыстанні якіх знаходзяцца адпаведныя каштоўнасці, а таксама за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту і іншых крыніц фінансавання. Форма ахоўнай дошкі зацвярджаецца ДзІнАС.

**Артыкул 32. Забарона дзейнасці, якая стварае пагрозу пагаршэння стану або знікнення нерухомых матэрыяльных каштоўнасцей**

Калі дзейнасць юрыдычных і фізічных асоб стварае пагрозу пагаршэння стану або знікнення матэрыяльных нерухомых каштоўнасцей, ДзІнАС абавязана не пазней як на трэці дзень з моманту выяўлення пагрозы выдаць прадпісанне аб неабходнасці змен у названай дзейнасці або поўнай яе забароне.

Патрабаванні прадпісанняў аб неабходных зменах або забароне небяспечнай дзейнасці могуць быць адменены ў пісьмовым парадку самой ДзІнАС.

**Артыкул 33. Абмежаванне або поўная забарона руху транспартных сродкаў на дарогах, якія прылягаюць да нерухомых матэрыяльных каштоўнасцей або зон іх аховы**

Калі рух транспартных сродкаў і іншых самаходных машын і механізмаў на дарогах, якія прылягаюць да нерухомых матэрыяльных каштоўнасцей ці пралягаюць праз зоны іх аховы, або дзейнасць камунікацый-

(Працяг на 4-й стар.).

* У далейшым — ДзІнАС.

** У далейшым — Навукова-метадычная рада.

*** У далейшым — банк звестак.

